# Праз унівэрсытэт у катоуню НКВД

(Заканчэньне з папярэдняга нумару)

У 1930 годзе вілянчукі шчасьліва скончылі ўнівэрсытэт. Тыя, што навучаліся на пэдагагічным факультэце, былі накіраваныя за настаўнікаў у сярэднія школы. На выпускных вечарох ніхто і словам не абмовіўся пра былых «палітэмігрантаў». Маўчалі й яны, нікому ня дзякавалі за атрыманую асьвету. Гэтак сталася, дый не магло стацца іначай. Набліжалася разьвязка.

У гэты час адбыліся вялікія зьмены ў савецкай Беларусі. Пачалася калектывізацыя, а зь ёю й розныя наступы на «буржуазна-нацыяналістычныя элемэнты». Надыйшоў такі «дзіўны» час, што (ня кажучы ўжо пра беспартыйных беларусаў), скажам, сяньня чалавек уважаўся за праверанага й адданага ад галавы да пятаў «таварыша», праз ноч ён мог апынуцца ў жмутку «нацыяналістычных элемэнтаў», гэтак званых нацдэмаў, каб ужо наступнай начы быць уштурхнутым у чорнае аўта ды высесьці нідзе іначай, як у славутай менскай «емэрыканцы», збудаванай паводля найноўшых катавальных узораў вязьніцы НКВД.

На гэты раз «мясцовы нацыяналізм» быў абвешчаны афіцыйна, праз самога ўедліва-любага «бацьку» за «галоўную небясьпеку». І адразу пад каманду з былога царскага Крамля пачалося зь дзікунска-азіяцкай бязьлітаснасьцю і безагляднасьцю вынішчэньне ўсяго нацыянальнага. Пачалося з пагрому на пісьменьнікаў, перакацілася ды захлынула ўвесь культурны фронт і аж сягнула ў сваей ашалелай няспыннасьці да афіцыйных дзяржаўных беларускіх кіраўнікоў. Здавалася, расейскі бальшавізм асатанеў у сваіх рэпрэсыях, якія з году ў год набіралі на сіле, нясучы на Беларусь сьмерць і спустошаньне.

Сярод вілянчукоў былі розныя характарам людзі — ад скупых на слова і сьціплых да вельмі ўпэўненых, што часамі рабіла прыкрае ўражаньне, хоць і можна было даравацъ гэтую паказную ўпэўненасьць, як вынік жыцьцёвае недасьветчанасьці.

Але пад уплывам вышэйзгаданага чалавек рабіўся цішэйшым ды прыгнобленa-пужлівым у той няпэўны, страшны час. І ці аднаму зь іх давялося хадзіць азіраючыся. Такіх людзей было процьма.

Вось ідзе сабе чалавек, прыкладам, па галоўнай Менскай вуліцы. Здаецца, і не сьпяшаецца, ідзе гэткай звычайнай хадою. Але прыглéдзьцеся да яго. Ён неяк больш звычайнага і ледзь прыкметна азіраецца, гэтак з-за пляча, спадзістым позіркам, каб ня кідалася ў вочы. Ягонае аблічча, на першы пагляд каменна спакойнае ці абыякавае, выдае ледзь улоўную глыбокую нутраную ўстрывожанасьць.

Гэта была звычайная рэч. Чалавек ня хочучы, інстынктоўна азіраўся. І не адно на галоўнай вуліцы. Азіраўся на маленькім глухім завулку, назвы якога ён ніколі ня ведаў. Азіраўся на падворку, дзе жыў. Часьцей ды даўжэй звычайнага пазіраў праз завешанае вакно на вуліцу. Азіраўся ды ўглядаўся ці ня сочыць хто-небудзь за ім. А лёгшы ў ложак, ня мог заснуць ад нэрвовай напружанасьці, бо ўслухоўваўся ў начную цемру, ці не загудзе аўта пад вакном ягонай кватэры, а калі загуло, дык ведаў, што вось зараз уломяцца малойчыкі зь ведамай установы ды пад выцягнутымі наганамі падымуць яго з ложка. На гэтым чалавечы лёс абрываўся і быў ужо нікому няведамы.

Гэтак пачалося ў 1930г. Трывала ня месяц, ня два, а праз цэлыя гады. Гэтак там і сяньня.

Былыя вучні Віленскай беларускай гімназыі, а пасьля былыя студэнты Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту былі бясьсьледна зьніклі. Над іхным лёсам заапекавалася НКВД.

Здаецца, быў 1933 год. Выпадкам сустрэў у Менскім Доме пісьменьніка паэта Алеся Салагуба. Навет у той час і то быў страшэнна зьдзіўлены. Ад ранейшага чалавека й сьледу не засталося. Заўсёды гаваркі, адкрыты, цяпер ён быў маўклівым, нібы чужым. На гэты раз яму неяк не сядзелася ў Доме пісьменьніка, дзе ён раней праводзіў па колькі гадзінаў ды заўсёды меў што да гаворкі.

Мы выйшлі на вуліцу. І вось тут я заўважыў, як Салагуб, які заўсёды хадзіў з узьнятай галавою, пэўны сябе, цяпер ідзе й нібы адварочвае позірк ад людзей ды раз-поразу азіраецца, гэтак паўз плячо, ледзь прыкметна. Натуральны спакой і раўнавага былі загубленыя. Чалавек хадзіў з трывогай людной вуліцай сярод белага дня.

Салагуб прыйшоў у Менск з Лукішак, дзе катавалі ці мала беларусаў. Калі ён меў кайданы на руках ды яго скаванага катавалі на Лукішках, яму здавалася, што на той бок кардону пануе найвышэйшая справядлівасьць. Прайшоўшы праз польскую катоўню, Салагуб, як хадзілі чуткі, быў расстраляны ў катоўні НКВД.

Быў сонечны вясновы дзень 1937 году. Я ішоў дахаты з карталюшкай у кішэні, на якой вельмі ляканічна й далікатна — «звольнены з працы на ўласнае жаданьне». Гэткі «дакумант» тады давалі кажнаму, каго бязь ніякага папярэджаньня выкідалі з працы за палітычную ненадзейнасьць. Уцеха была невялікая. Для падтрыманьня настрою міжвольна прыходзіў на думку створаны ў тую пару афарызм: «З чалавека не разжалуюць і зь зямлі ня ськінуць».

Заняты сваімі думкамі, я адно краем вуха ўлавіў, як хтосьці мяне клікаў. Зірнуў у той бок, адкуль ішоў вокліч, і не паверыў ад зьдзіўленьня, што гэта яна, што ўцалела. Яна была з групы вілянчукоў, даўняя добрая прыяцелька. Прывіталіся з былой сяброўскай непасрэднасьцяй.

У часе размовы запытаўся, ці праўда, што ўсе ейныя былыя сябры зьніклі. Яна зразумела пытаньне й адно адказала, што таксама даўно чула гэта. Вось і яна гаварыла ды часьцей звычайнага азіралася, хоць ніколі ніякай палітыкай не займалася. Тады няўцішна ўжо больш году шалела гэтак званая «яжоўшчына», якая вымардавала безьліч нашага народу.

Вілянчукі пераступілі кардон ды прыйшлі ў Менск, калі, як магло здавацца, пачынала днець у савецкай Беларусі. Але сьвітаньня гэтак і ніхто не дачакаўся. Бо напярэхваткі сьвітаньню, — каб ня даць заняцца дню — рынула на ўсе шляхі-дарогі й скрыжаваньні апірышча расейскага бальшавізму — усемагутнае НКВД. Цемра праглынула разам зь іншымі ахвярамі й жменьку вілянчукоў. Калі хто і ўцалеў зь іх, дык гэта быў шчасьлівы выпадак.

Гэткі лёс напаткаў маладых хлапцоў і дзяўчат адно таму, што яны былі беларусамі, маленькай часьцінай беларускае інтэлігенцыі, што яны прыйшлі з-за кардону, створанага наперакор волі нашага народу маскоўска-варшаўскімі майстрамі ад рабунку, разарваўшых цела нашае Бацькаўшчыны ў 1920 годзе на дзьве часткі.

Ня ведаем, якую мэту ставілі сабе тыя, што выпраўлялі гэтую моладзь у савецкую Беларусь. Але добра ведаем, што хлапцы й дзяўчаты зь Віленскай беларускай гімназіі праз кардон прыйшлі ў Менск з адзінай мэтаю — вучыцца. Прытомны чалавек навет прысьніць ня мог, што за навучаньне трэ' будзе заплаціць жыцьцём.

Страшна, жахліва. Але гэта праўда, праўда крывавага расейскага бальшавізму.

**Язэп Менскі**

# На землях Беларусі

### СТАЛІНСКІХ ПРЭМІЯЎ НЕ ШКАДУЮЦЬ

Што сталінскія прэміі выдаюцца ня столькі за фактычныя дасягненьні ў дадзенай галіне творчасьці, сколькі дзеля прапаганды сярод савецкага грамадзянства, як і на вонкі, што ў Савецкім Саюзе мастацтва, навука й тэхніка быццам узапраўды стаяць на недасягальнай нідзе ў сьвеце вышыні, сьветчыць вялізарная колькасьць ляўрэатаў гэтых прэміяў. Колькасьць іх расьце з году ў год у геамэтрычнай прапорцыі, што хутка ў Саавецкім Саюзе паўстане новы ўпрывілеяваны слой грамадзянства — ляўрэаты сталінскіх прэміяў. Гэтак, прыкладам, сёлета толькі ў вадным Беларускім Дзяржаўным Драматычным Тэатры імя Янкі Купалы ў Менску аж шэсьць актораў было ўзнагароджаных сталінскімі прэміямі: Канстанцін Саньнікаў, Барыс Платонаў, Уладзімер Дзядзюшка, Ліда Ржэцкая, Вера Пола й Лілія Драздова.

### ЦУКРОВЫЯ БУРАКІ Ў БЕЛАРУСІ

Як падае «Зьвязда» за 20 сакавіка сёлета, у Горадні адбылася абласная нарада буракаводаў, у якой прыняло ўдзел звыш 500 чалавек. Цукровыя буракі — гэтая важная тэхнічная культура — яшчэ да апошнай вайны бадай што зусім не разводзіліся ў Беларусі. Сяньня-ж яны садзяцца ўва ўсей Горадзенскай акрузе, і часткава ў вакрузе Баранавіцкай, а ў Ськідэлі пабудаваны магутны цукровы завод, які дае дзесяткі тысячаў пудоў цукру. Аб шырокім разводжаньні цукровых буракоў і вышыні іхнае ўраджайнасьці можа сьветчыць факт, што за адзін толькі 1951 год калгасам Горадзенскае акругі за здадзеныя буракі было выплачана 5 267 000 рублёў грашыма й 29 тысячаў пудоў цукру. Некаторыя калгасы Горадзеншчыны сабралі летась па 200—250 цэнтнараў цукровых буракоў з гэктара, а ў выключных выпадках — навет 638 пудоў з гэктара. На нарадзе было адзначана, што некаторыя калгасы неахайна адносяцца да вырашчываньня цукровых буракоў, а таму іхны ўраджай там вельмі нізкі. Усё гэта сьветчыць, што ў Беларусі існуюць усе ўмовы для разводжаньня цукровых буракоў у вялікім маштабе й для цукровай прамысловасьці.

### НАРОДНАЯ АСЬВЕТА Ў БССР

У передавым артыкуле «Зьвязды» за 19 сакавіка сёлета знаходзім некаторыя дадзеныя аб пачаткавым і сярэднім школьнітве ў БССР. Стуль даведваемся, што ў дзяржаўным бюджэце БССР прадугледжана выдаткаваць у 1952 годзе на народную асьвету 60 мільярдаў рублёў. За кошт дзяржаўных асыгнаваньняў і мэтадам народнае будоўлі пабудаваныя пасьля вайны 4 172 школы. У сёлетнім навучальным годзе ў БССР працавала 11 613 школаў, у якіх навучалася 1 мільён 426 тысячаў вучняў. У прыраўнаньні з даваенным 1940 годам колькасьць сямігадовых школаў павялічылася на 363 і сярэдніх — на 57. На месячных курсах сёлетняга лета будзе навучацца 7 350 настаўнікаў.

Што колькасна савецкія школы ўсьцяж растуць, гэта мы ведаем. Але добра ведаем таксама, што гэты колькасны рост зусім не адказвае якасьці савецкага навучаньня. Вучні з гэтых школаў выносяць вельмі павярхоўную веду, бо ўся ўвага савецкага навучаньня зьяўляецца ськіваванай на ўбіваньне ў галовы нашае моладзі антынароднай камуністычнай ідэалёгіі. Школьніцтва зьяўляецца таксама аружжам русыфікацыі, бо, ня гледзячы на тое, што бальшыня школаў зьяўляецца з назвы беларускай, навучаньне ў іх вядзецца ў большасьці выпадкаў парасейску.

### І МАСТАЦТВА НА СЛУЖБЕ АГІТАЦЫІ.

У клюбах БССР працуе 800 агітацыйна-мастацкіх брыгадаў дзеля абслугоўваньня калгасьнікаў, аддаленых ад большых населеных пунктаў. У леташнім годзе сябры брыгадаў прачыталі для насельніцтва звыш 95 тысячаў кладаў. Сіламі актыву культурна-асьветных установаў было арганізавана 7 000 канцэртаў і выступленьнаў гурткоў мастацкай самадзейнасьці. («Зьвязда» за 21 сакавіка 1952.)

### РАМОНТ БЕЛАРУСКАГА ДОМУ Ў ЛЁНДАНЕ

Згуртаваньне Беларусаў у Вялікабрытаніі атрымала ад ангельскіх уладаў 881 фунт на рамонт і аднаўленьне Беларускага Дому ў Лёндане.

# Час працуе на нашую карысьць

(Заканчэньне)

для ўсіх бяз выключэньня народаў, нясе нерасейскім народам і нацыянальную сьмерць, у той час, калі нацыянальныя асьпірацыі расейцаў пры ніводным з цароў ня былі забясьпечаныя ў такой вялікай меры, як пры Сталіне. Дамаганьні новай палітыкі вызваленьня для паняволеных расейскім бальшавізмам народаў, пэўне-ж, ня выплываюць зь нейкага асаблівага да гэтых народаў пачуцьцёвага сэнтымэнту, але із правільнага зразуменьня рэальных карысьцяў, якія можа такая палітыка прынесьці. Таму гэтае зразуменьне многімі амэрыканцамі тэй вялізарнай ролі, якую ў працэсе антыбальшавіцкага змаганьня могуць адыгрываць нерасейскія народы, можа быць гарантыяй, што якраз у гэтым кірунку будзе ў далейшым эвалюцыянаваць амэрыканская палітыка.

Пры ўсім гэтым нельга аднак пападаць у цеэразьмерны аптымізм, бо дамаганьні Кэрстэна, Армстронга й іншых кангрэсмэнаў гэта яшчэ не палітыка, але ўсяго толькі лёзунгі. Да грунтоўнай зьмены амэрыканскай палітыкі яшчэ вельмі далёка. Навет у выпадку перамогі рэспубліканцаў на прэзыдэнцкіх выбарах, што зьяўляецца вельмі праўдападобным, яшчэ цяжка спадзявацца, што амэрыканская замежная палітыка ў дачыненьні да падбальшавіцкага Ўсходу пойдзе адразу па тэй лініі, якой дамагаецца Кэрстэн. Ня рэдка бывае, што палітычная партыя іншыя стаўляе лёзунгі, калі яна знаходзіцца ў апазыцыі, і зусім іншыя, калі дойдзе да ўлады. Гэта апошняе мы можам абсэрваваць на прыкладзе палітыкі Чэрчыля, як лідэра ўрадавай апазыцыі, і Чэрчыля, як цяперашняга шэфа брытанскага ўраду.

Аднак ужо сам факт, што ў Амэрыцы паўстаюць што раз мацнейшыя галасы за рэвізыяй дасюлешняй замежнай палітыкі ў дачыненьні да Савецкага Саюзу й паняволеных ім народаў, за шуканьнем новых, больш правільных шляхоў да зьнішчэньня бальшавізму, зьяўляецца зьявішчам вельмі пацяшаючым. А тое, што такія прыязныя нам галасы выходзяць якраз з радоў рэспубліканскай партыі, павінна нас многа абнадзейваць у выпадку рэспубліканскай перамогі на прэзыдэнцкіх выбарах. У кажным выпадку ў Амэрыцы час працуе на нашую карысьць.

**Язэп Каранеўскі**

ЯКУБ КОЛАС (23)

# НОВАЯ ЗЯМЛЯ

## П А Э М А

### XXVI

### АГЛЯД ЗЯМЛІ

Прайшло ў Парэччы лет нямала;
Яно-ж ня цешыла Міхала,
Хоць тут мясьцінка гожа, міла
І так гарнула, так хіліла
К сабе і лесам, і лугамі,
І старасьвецкімі дубамі!
Ды што краса без ауладаньня?
Адно пустое парываньне,
У цьме далёкі блеск зарніцы:
Ўсё гэта — скарбы чужаніцы,
Магната князя Радзівіла,
А ты, пакуль ёсьць рух і сіла,
Служы панам, зьбірай іх крошкі
І ведай цьмяныя дарожкі
Батрацкай долі да магілы,
Служы, пакорны і пахілы,
Служы з-за панскага агрызка
І заўжды гніся нізка-нізка!
Няўжо-ж і век прабыць слугою
І чуць пагрозу над сабою,
Што пан у кажную хвіліну
Цябе пагоніць, як скаціну?
Пагоніць вон без разважаньня,
Бо пан ня мае спагаданьня,
Што трэба жыць зь сям'ёй на сьвеце,
Што ты, як рыба тая ў сеці,
Ня маеш волі, ні разгону,
Што ты ня чуеш жыцьця звону,
Што гэты сьвет табе завязан
І шлях прасторны твой заказан.
А дзе-ж той выхад? дзе збавеньне
Зь няволі цяжкай, з паланеньня?
Адзін ён ёсьць: зямля, зямля,
Свой пэўны кут, свая ральля:
То — наймацнейшая аснова
І жыцьця першая умова.
Зямля ня зьменіць і ня зрадзіць,
Зямля паможа і дарадзіць,
Зямля дасьць волі, дасьць і сілы,
Зямля паслужыць да магілы,
Зямля дзяцей тваіх ня кіне,
Зямля — аснова ўсёй айчыне.
Міхал у часе вандраваньня
На адзіноце сам з сабою,
З гарачым сэрцам і душою
Разьвязваў важнае пытаньне
Аб той зямельцы аб уласнай.
Яна сьвяціла зоркай яснай,
Яна гарнула і хіліла,
Бы нейкіх чар нязнаных сіла.
Свая зямля, свая пасада!
Ці ёсьць мацнейшая прынада?
Міхал станоўка, ненарокам
Ішоў да мэты крок за крокам.
Ён паскупеў і нават значна.
Што-ж? лепей зьесьці ня так смачна,
Загнаць запас на хлеб, на сала,
Абы капейка перапала,
І лішні выгадаць рубель
Ды палажыць яго ў кашэль.
Наогул трэба жыць больш змысла
І больш мяркоўна, болей сьцісла,
Трымаць зачыненымі губкі
І меней траціць на пакупкі.
І так пацІху ды памалу
Прыдбалі трохі капіталу,
Каб хоць пачатачак зрабіць
І першы камень залажыць
На груньце вольнае зямелькі,
Адной-ядынай збавіцелькі
Ад панскай ласкі і апекі,
І плюнуць ім за тыя зьдзекі,
Што так уеліся ўжо ў косьці, —
Калом зямля вам, ягамосьці!
Цаною доўгага шуканьня,
Парады, спрэчак, разважаньня
І гэтых мысьляў натужэньня
І нястрыманага імкненьня
Ня знаць ні службы той, ні пана,
Была зямелька апытана.
Яе Міхал — прыпомнім гэта —
Апісваў фарбамі паэта,
Апісваў шчыра, ўсё зазначыў,
Хоць ён зямлі тае ня бачыў;
Ды мала што: ніхто ніколі
Ня бачыў сьветлай райскай долі,
Але той рай мы так малюем,
Што асалоды яго чуем.
Ды тут замецім стараною:
Ці не зьяўляецца маною —
Прашу прабачыць мне за слова —
Ўся гэта райская размова?
Але пара, пара ў дарогу,
Бо час прыстаць к свайму парогу,
Пакуль жаданьне не астыла,
Пакуль ахвота ёсьць і сіла.
Агледзіць трэба землю тую,
Каб не гадаць, ня йсьці ўсьляпую,
Аб чым была ўжо пастанова;
Няхай зямелька скажа слова
І твар пакажа свой выразна,
І гэта будзе болей важна,
Чым тая іх уся размова.
І вось пад восень прад сяўбою,
Парадзіўшыся між сабою,
Міхал з Антосем воз прыбралі,
Каня запрэглі, пастаялі
Ў нейкім смутным разважаньні,
Ў настроі новым, хваляваньні:
Дарога, даль і лёс нязнаны
Глядзяць нявeтла скрозь туманы.
Эх, ты, жыцьцё, жыцьцё людзкое!
Няма табе, няма спакою:
Ты — суматоха, вір бурлівы,
Ў табе загіне баязьлівы,
Як парахно, як зерне тое...
— Ну, будзем ехаць! — Едзьма, браце! —
На момант ціха стала ў хаце,
Куды мужчыны завіталі,
Спыніліcь, шапкі пазьнімалі,
Прад абразамі гнуць галовы.
— Бывайце-ж, мілыя, здаровы!
— Ну, час вам добры, едзьце з Богам! —
Ім кажа маці за парогам,
Жадае шчасьця і дабра.
Мужчыны рушылі з двара,
На воз паселі і ўздыхнулі
Ды ўлева к дубу павярнулі.
Уськінуў жвавы конік грывай,
Два разы пырхнуў выразьліва —
Відаць, далёкую дарогу
Пачуў Сівак, забіў трывогу
І, шыю выгнуўшы дугою,
Пабег вясёлаю трусцою
Па гладзі мяккага дзірвана.
Алесь і Костусь з-за паркана
Глядзелі ім усьлед маўкліва,
І думка нейкая тужліва
На смутных тварыках блукала
І ценем вочы засьцілала;
І ім здавалася, што зь імі
Дзяліліcь жальбамі сваімі
І дуб стары, і той будынак,
І лазьнячок ускрай лагчынак,
І гэты лес, і само неба:
Чаго людцам, чаго ім трэба?
Нашто шукаць зямлі далёка?
Зайздросна ты, людзкое вока!
Хіба тут цесна? сьвету мала?
Няма работы для арала
Ці для сярпа, або для коскі?
Ці ня прыгожа ў кроплях роскі
Гарыць-ірдзіцца дрыгаценьне,
Як нейкі вобраз лятуценьня,
Адбітак вечнае красы?
Ці не багаты тут лясы
І рознай пташкай, і зьвярамі,
Арэхам, ягадай, грыбамі? . .
Эх, вы, нявіннасьць і прастэча!
Цямны вам лёсы чалавечы.
Але напэўна і мужчыны
Паважнасьць гэтае хвіліны
Ня менш ад хлопцаў адчувалі,
І нейкі час яны маўчалі,
І кажны ў думках сам з сабою
Размову меў часінай тою.
Ды што гадаць аб гэтых словах,

